# Ніва

ГОД I № 24 БЕЛАСТОК, 12 ЖНІЎНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## Беларуская філалогія

Дзякуючы пастаяннай апецы партыі і народнай улады беларускае насельніцтва ў Польшчы атрымала шырокія магчымасці культурнага развіцця Створаны шматлікія беларускія пачатковыя і сярэднія школы, у якіх беларуская моладзь вучыцца на сваёй роднай мове Развіваюцца калектывы мастацкай самадзейнасці, выдаецца штотыднёвік «Ніва», праводзіцца культурная праца ў гарадах і вёсках Беласточчыны Аднак гэтыя дасягненні яўна недастатковыя, а ўзровень культурна - асветнай працы ў многіх яшчэ застаецца нізкім. Найвялікшым недахопам, які сур'ёзна стрымлівае далейшае развіццё культурнай працы сярод беларускага насельніцтва з'яўляецца вострый недастатак кадраў добра ведаючых беларускую мову і літаратуру, сваю гісторыю, культуру і народныя традыцыі.

У сувязі з тым выключна важнае значэнне мае нядаўная пастанова Міністэрства Вышэйшых школ у Варшаве аб пакліканні да жыцця кафедры беларускай мовы і літаратуры пры філалагічным факультэце Варшаўскага Універсітэта.

Кафедра беларускай мовы і літаратуры, пры арганізаванні якой асабліва многа працы і энергіі прылажыла прафесар Варшаўскага Універсітэта д-р. А. Яблонская, пачне сваю дзейнасць ужо з 1 кастрычнікам гэтага года Неабходна звярнуць увагу на вялікую дапамогу, якую ў гэтай справе аказвае Савецкі Саюз Па запрашэнню Міністэрства Вышэйшых школ прыедуць у Варшаву з БССР прафесары, якія будуць выкладаць на ўніверсітэце беларускую мову і гісторыю беларускай літаратуры.

Пачынаючы з вос: 1 г. г. будзе арганізаваны першы курс беларускай філалогіі Уступныя экзамены адбудуцца 25—28 верасня па: канстытуцыі, гісторыі, польскай літаратуры, беларускай мовы (вусна) і рускай мовы (пісьмова). На першы курс беларускай філалогіі будзе прынята дваццаць кандыдатаў, прычым прадбачана магчымасць забяспечання іх стыпендыямі і кватэрамі ў студэнцкіх інтэрнатах

«Навука ў галіне беларускай філалогіі падобна польскай, рускай і іншым, абымае пяцігадовы курс навучання, пасля чаго абсальвенты атрымаюць навуковую ступень магістра філалагічных навук.

Пастанова Міністэрства Вышэйшых школ прадугледжвае, што студэнты беларускай філалогіі атрымаюць таксама пабочную спецыялізацыю ў галіне рускай мовы. Гэта пазволіць шырэй выкарыстаць веды маладых выпускнікоў так у педагагічнай як і іншай працы

На канец трэба адзначыць, што кафедра беларускай мовы і літаратуры пры Варшаўскім Універсітэце будзе цесна супрацоўнічаць з секцыяй беларускай мовы пры завочнай настаўніцкай студыі, якая арганізуецца ў Беластоку.

Кафедра беларускай філалогіі будзе займацца падрыхтоўкай высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне беларускай мовы і літаратуры Спецыялістаў, — якіх чакаюць беларускія сярэднія школы, рэдакцыя школьных падручнікаў на беларускай мове ў Варшаве, а таксама пераклады мастацкай і навуковай літаратуры. Перад будучымі беларускімі філолагамі адкрываюцца перспектывы цікавай навуковай працы ў галіне беларускай мовы і літаратуры, беларускага фальклора, узаемных сувязей польскай і беларускай мовы і літаратуры.

Мы верым, што новая кафедра споўніць пастаўленыя перад ёй задачы і ўнясе свой ўклад да справы яшчэ большага азнаямлення і культурнага збліжэння беларускага і польскага народаў.

Беларускае насельніцтва ў Польшчы са шчырай і гарачай удзячнасцю партыі і народнай уладзе сустракае гэту пастанову, якая з'яўляецца новым крокам у справе ўмацавання дружбы паміж нашымі народамі.



*«Грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі маюць правы да адпачынку». (Арт. 59 Канстытуцыі ПРН). Глядзі фотарэпартаж на староцы пятай* *Фота — Оміньяновіч.*

АДАМ РУСАК

### Толькі з табою

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою,
Радасць і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою.

Кожнай часінай імкнуся, лячу
З любай сустрэцца,
Толькі к табе прыхіліцца хачу,
Сэрцам да сэрца.

Выйсці у поле, дзе нівы шумяць
Ранняй парою,
Першую зорку на небе спаткаць
Толькі з табою.

Гэтак не страшны цяжкія пуці
Будуць з табою,
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою.

### НЕ СПЯВАЙ

Не шукай ты мяне
Каля жытніх палёў,
Не шукай...
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў,
Не шукай...

Не кажы ты мне слоў,
Што не грэюць цяплом,
Не кажы...

Калі сэрца тваё
Не палае агнём,
Не кажы...

Не спявай пад акном
Ты мне песні сваёй,
Не спявай...
Калі я не з'яўляюся
Песняй тваёй —
Не спявай...

МАРК СМАГАРОВІЧ

### Пагаворка

Салдаты зналі пагаворку,
Што паміраюць толькі раз.
Аднойчы ўпаў снарад на ўзгорку
Ля самага мяне якраз.

Грымела кананада дзесьці,
Сябры ішлі ў гарачы бой,
А я па ўсіх законах смерці
Ляжу, засыпаны зямлёй.

Дамоў са штаба напісалі,
Што я загінуў на вайне.
Ды толькі ў палявым шпіталі
Жыццё ізноў вярнулі мне.

Я пахаваны быў на горцы
У тую грозную пару,
І калі верыць пагаворцы,
Дык больш ніколі не пamру.

## Мексіканская графіка



*Леопольдо Мендэс.* *«Пастаўлены да сцяны».*

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

